© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

12 кастрычніка 1998 №17 кошт 1 літ



# КАНЕЦ ІМПЭРЫІ



Заканчваецца XX стагодзьдзе. Яно было вельмі крывавым. Самае пачварнае ягонае спараджэньне – сацыялізм (у сваёй камуністычнай і фашыстоўскай мадыфікацыі) адабраў у чалавецтва больш 100 мільёнаў жыцьцяў. Дадамо сюды яшчэ ахвяры двух сусьветных войнаў, якія складаюць амаль столькі ж, і атрымаем крывавы вынік стагодзьдзя.

У аснове сусьветных войнаў ляжалі дзьве прычыны: нямецкі мілітарызм і рускі імпэрыялізм. Пасьля 2 Сусьветнай вайны зь нямецкім мілітарызмам было скончана. Аднак ніхто ўсур'ёз ня вёў барацьбы з рускім імпэрыялізмам. Змагаліся з камунізмам.

Але вось камунізм у Эўропе разбураны й Расея ўсім цяжарам разам са сваёй імпэрскай закамплексаванасьцю й ядзернымі баегалоўкамі каменем павісла на шыі зьбянтэжанага Захаду. „Зьбянтэжанага" не таму, што ён нешта зразумеў, ці ўсьвядоміў крах сваіх вечных ілюзіяў і ружовых сантымэнтаў адносна Расеі. Не. Аднак пасьля банкруцтва Расеі ў жніўні гэтага году і ў выніку краху расейскай фінансавай сыстэмы на Захадзе пабачылі, што ўтрыманьне Расеі ім абыдзецца вельмі дорага...

Афіцыйная Амэрыка... ня хоча прызнаць паражкі сваіх ілюзіяў пра нібыта „дэмакратычную" „рынкавую" Расею й імкнецца апраўдаць свае шматмільярдныя ўліваньні ў расейскі эканамічны крымінал знаёмымі страшылкамі пра „хаатычную", „некіруемую" Расею з „тысячамі ядзерных ракетаў", пра магчымы „прыход новага дыктатара", пра „новую рэвалюцыю" й г. д. Жнівень у чарговы раз паказаў поўную безпэрспэктыўнасьць і шкоду амэрыканскай палітыкі (якую пачаў яшчэ прэзыдэнт Буш) у дачыненьні да Расеі і ўвогуле да Ўсходняе Эўропы. Амэрыка загнала сябе ў кепскае становішча, вымушаная ўзбагачаць мільярдамі даляраў (прытым абсалютна безвынікова) некалькі дзясяткаў (!) чалавек, якія падабралі пад сябе расейскія фінансы, уплыў на ўладу й ключавыя пазыцыі расейскай эканомікі...

### Прыхватызацыя

У Расеі не адбылося „дэмакратычнай рэвалюцыі". Гэта была намэнклятурная „рэвалюцыя". У выніку эканамічнага й палітычнага крызысу й расколу КПСС на дзьве часткі – „кансэрватыўную" на чале з Гарбачовым і „лібэральную" на чале зь Ельцыным – перамагла ельцынская група..., якая дэмакратычным мэтадам (праз выбары) загарнула ўсю паўнату ўлады ў Расеі й адмовілася ад сваёй камуністычнай прыналежнасьці. Намэнклятура асядлала дэмакратыю й перамагла там, дзе аказаліся слабыя нацыянальна-незалежніцкія сілы. (Гэта значыць паўсюль, акрамя краінаў Балтыі). Намэнклятура амаль паўсюдна скарыстала палітычна-нявопытны нацыянальны дэмакратычны рух у сваіх інтарэсах. (Акрамя Беларусі, дзе намэнклятура была антынацыянальнай і Беларускі Народны Фронт стаў у рэзкую апазыцыю да яе). А далей якраз і пачалася рэальная „перабудова" пад лёзунгамі нібыта рынкавай эканомікі, нібыта свабоды й дэмакратыі з выкарыстаньнем самых дэмакратаў, якія ў Расеі аказаліся пагалоўна безпрынцыповымі, сквапнымі, хцівымі й прадажнымі. Пачаўся луп сярод белага дня.

Замест таго, каб распрацаваць сыстэму заканадаўства, структураў улады й прадаваць дзяржаўныя прадпрыемствы на ад-

Працяг на старонцы 3

# ЯКОМУ БОГУ МАЛІЦЦА?

Пачатак у N16

Мы добра знаем, што дзеялася ня так даўно ў былой Югаславіі, а цяпер — у правінцыі Косава. Для людзей цяжка зразумець праблему Косава зь ягонай старажытнай традыцыяй, культурай і абра-днасьцю. Ад часу паражэньня сэрбаў у баі з туркамі на Косавым полі ў 1389 годзе Балканскі паўвостраў акупавалі туркі й, пачынаючы з XYI ст. некаторыя ягоныя жыхары прынялі іслам. Так было да 1913 году, калі Турэцкая імпэрыя пачала развальвацца. Тады на Балканах пачалі тварыцца незалежныя дзяржавы, а сярод іх — Югаслаўянская дзяржава. У тым жа 1913 годзе, 29 ліпеня, канфэрэнцыя амбасадараў у Лёндане прызнала й гарантавала незалежнасьць і граніцы Альбаніі, але Косава прызнала Сэрбіі.

У часе Другой сусьветнай вайны немцы акупавалі Балканы. Была створаная Харвацкая дзяржава на чале з каталіцкім фанатыкам Павэлічам, пры якім было зьнішчана сотні тысячаў праваслаўных сэрбаў і зруйнавана шмат іхніх цэркваў. Па вайне Ціта стварыў Югаслаўскую фэдэрацыю. Аднак пасьля ягонай сьмерці пачалася хатняя вайна, якая прывяла да ўтварэньня незалежных дзяржаваў: Славэніі, Харватыі, Босьніі, Чарнагорыі й Сэрбіі.

Цяпер паўстала пытаньне адносна правінцыі Косава. Яго аб'ядноўвае супольная вера Магамэта з паўднёвымі альбанцамі, але ў Паўночнай Альбаніі многа каталікоў. І хоць нельга сказаць, каб гэтыя дзьве веры, мусульманская й каталіцкая, жылі паміж сабою любоўна, — іх яднала й яднае нянавісьць да праваслаўных сэрбаў. Маючы падтрымку сваіх адзінаверцаў у Альбаніі, косаўцы збройна пачалі вываяваць за сваю дзяржаўную незалежнасьць ад Сэрбіі. Захад жа, прызнаючы Косаву шырокую аўтаномію, ягоную дзяржаўную незалежнасьць не прызнае. Чым скончыцца гэтае процістаяньне, пакажа недалёкая будучыня, а тымчасам ідзе збройная барацьба й гінуць людзі.

Такім чынам, мы бачым, што сёньня праваслаўныя, каталікі й мусульмане былой СФРЮ адзін аднаго ненавідзяць. А ў YI-YII ст. ст. яны йшлі разам на Балканы супраць рымлянаў, якія дазволілі ім там асесьці. У IX ст. славяне прынялі хрысьціянства з Салонікаў (Грэцыя), а Ілірыя, дзе знаходзілася Альбанія, належыла да Рымскай дыяцэзіі. У той час не было яшчэ царкоўнага падзелу, хоць былі непаразуменьні й разьбежнасьці паміж Рымам і Канстантынопалем. Аднак ужо пад турэцкай акупацыяй каталікі й мусульмане падтрымоўвалі туркаў супраць праваслаўных сэрбаў. Як тады, так і цяпер, альбанцы глядзяць на сэрбаў, як на найбольшых сваіх ворагаў.

Нельга забываць, што пад турэцкай акупацыяй Балканаў некаторыя іхнія жыхары прынялі веру Магамэта. Сэрбы, якія былі бліжэй Грэцыі, прынялі ад яе праваслаўе, а славенцы й часткова альбанцы, якія належылі да рымскай юрысдыкцыі, прынялі каталіцызм. І як некалі былі гэтыя славянскія плямёны адным народам, дык рэлігія іх ня толькі падзяліла, але зрабіла непрымірымымі ворагамі. Гэтая варожасьць і прывяла да падзелу й стварэньня асобных незалежных дзяржаваў: каталіцкай Славеніі й Харватыі, мусульманскай Босьніі й праваслаўнай Сэрбіі.

Падобна выглядае справа ў Паўночнай Ірляндыі, дзе каталік мардуе пратэстанта, а пратэстант — каталіка, хоць усе яны ёсьць ірляндцы. Так што рэлігію робіць чалавек, а не рэлігія чалавека.

Вядома з гісторыі, што Праваслаўная царква Расеі выконвала й выконвае палітыку свайго ўраду. Як было за князёў, цароў, так і за бальшавікоў, якія бэсьцілі й нішчылі царкву й ейнае духавенства. Аднак расейскія іерархі пайшлі на службу камунізму. У ліпені 1927 году мітрапаліт Сергій, выконваючы абавязкі Патрыярха Рускай Праваслаўнай Царквы, выдаў дэклярацыю, якая рабіла царкву актыўным хаўрусьнікам ураду. Сваю лаяльнасьць Савецкай уладзе руская царква паказала ў часе Другой

Працяг на старонцы 6




© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ЛЮСТРАДЗЁН

## СЬВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНІ – ВІЛЬНЯ 98




Пра сёлятняе „Сьвята беларускай песьні", якое адбылося 13 верасьня ў палацы прафсаюзаў і арганізатарам якога было кіраўніцтва Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве на чале з прэзыдэнтам Лявонам Мурашкам, можна было б напісаць так, як заўсёды пішацца пра падобныя чыста культурніцкія мерапрыемствы. Маўляў, сабралася на сьвята шмат народу (заля сапраўды была перапоўненая), сярод якіх былі й высокія госьці (напрыклад, пасол Рэспублікі Беларусь у Літве сп. Я. Вайтовіч, намесьнік старшыні Камітэту па справох рэлігіі й нацыянальнасьцяў РБ сп. І. Дзярновіч ды іншыя). Потым, як тое прынятае, пералічыць выступоўцаў (а іх таксама было шмат: прафэсыйныя й аматарскія калектывы зь Беларусі й Літвы, знакамітыя літоўскія опэрныя сьпевакі спн. Н. Краўтэр, сп. Я. Васілеўскі й сп. Л. Мурашка ды іншыя). Затым узгадаць пра зачытанае са сцэны прывітаньне прэзыдэнта Літвы Валдаса Адамкуса, у якім ён узгадаў пра нашую супольную літоўска-беларускую мінуўшчыну, і пра прывітальнае слова прэзыдэнта ЗБГА Лявона. Мурашкі, у якім ён выказаў падзяку за матар'яльную падтрымку ў правядзеньні сьвята літоўскім урадавым структурам, а таксама беларускай амбасадзе ў Літве й Камітэту па справох рэлігіі й нацыянальнасьцяў РБ. У сярэдзіне рэпартажу адзначыць найбольш удалыя творчыя калектывы, іхніх кіраўнікоў і салістаў, вылучыць найбольш дасканалыя музычныя творы, якія выконваліся на сцэне. А напрыканцы дадаць, што на канцэрце прысутнічалі шматлікія сродкі СМІ й тэлебачаньня (яны сапраўды прысутнічалі) і што па заканчэньні сьвяточнай імпрэзы артысты й высокія госьці былі запрошаныя на банкет (так яно й было). На гэтым свой рэпартаж і закончыць. Але...

Але, як казала на 2-ім Зьезьдзе беларусаў Балтыі старшыня ЗБС „Бацькаўшчына" спн. Г. Сурмач: „Адметная рыса нашага цяперашняга часу гэта *форма (падкрэсьлена мной – А. М.)* правядзеньня беларускіх імпрэзаў. Можна сабрацца, пась-пяваць, пасядзець ля вогнішча ці ў рэстарацыі, – і ўсё вельмі добра! Але ж час сёньня не такі – сёньня, калі для Беларусі вырашаецца гамлетаўскае пытаньне „Быць ці ня быць?".

„Выбачайце, спадар! – запярэчыць нехта мне, – Пры чым тут беларуская песьня й палітыка?" Зноў жа, адкажу словамі сп. Зянона Пазьняка, які на тым самым зьездзе сказаў: „Калі ў краіне акупацыйны рэжым – усё палітыка: і мова , і кулінарыя!" А тым, хто не разумее, пра што йдзе гаворка або для каго сп. Зянон Пазьняк не аўтарытэт, хачу ўсё ж на прыкладзе праведзенай ЗБГА імпрэзы паспрабаваць давесьці, пры чым тут палітыка.

Па-першае, сымболіка сьвята. Гэта, бадай, першая імпрэза ЗБГА, на якім ня быў вывешаны наш нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. Замест яго на сцэне ў аздобе штучных белаблакітных кветак (якія, кажуць, вырабіў дырэктар Беларускага культурнага цэнтру ў Салечніках сп. П. Малафей) красаваўся надзьмуты чырвоны пеўнік. Што ён павінен быў сымбалізаваць, кожны, мусіць, думаў на свой капыл. Для некага гэта быў проста пеўнік з арнамэнту на беларускім ручніку. Для некага – сымбаль пажару. Для некага – чалавечай дурноты. Асабіста мне ўзгадалася, што цяпер у менскім Камітэце па справох рэлігіі й нацыянальнасьцяў не апошняе месца належыць спн. Петуховай, дык ці не ў яе гонар быў намаляваны арганізатарамі сьвята той чырвоны (!) „петушок"? Зноў жа, прыгадаліся словы старшыні кіраўніка суполкі „Сьвітанак" з Рыгі, праф. С. Кузьняцова (той самы зьезд): „Падчас сваіх вандраваньняў міністар замежных справаў РБ, тав. Антановіч, праявіў ахвоту пабываць у беларускай школцы ў Рызе, якая мае пяць клясаў. Дырэктара школкі, сп. Цележа, культуртрэгеры зь беларускай амбасады дзьве гадзіны ўпрошвалі, каб ён зьняў на час візыта высокага госьця бел-чырвона-белы сьцяг, а вывесіў чырвоназялёны, лукашэнкаўскі. Дырэктар школы пагадзіўся, і тав. Антановіч падарыў школцы патрыманы кампутар. Такая практыка йснуе цяпер ва ўсім беларускім замежжы. Атрымліваецца, што мы, нібыта кітайцы, на некалькі гадзінаў здымаем нацыянальную сымболіку, каб атрымаць кампутар. Дарункі данайцаў!"

Па-другое, прысутныя на сьвяце не пачулі звыклых ужо нам песьняў „Магутны Божа" й „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", якімі звычайна адкрываліся й закрываліся бадай усе беларускія сьвяты й імпрэзы апошняга дзесяцігодзьдзя ў Вільні. Не пачулі й іншых беларускіх песьняў нацыянальна-вызваленчага зьместу, хоць паводле сёньняшняй грамадзка-палітычнай сытуацыі ў Беларусі яны былі б вельмі дарэчы. Можа арганізатары сьвята ня лічаць іх беларускімі? А можа гэта плата за прысутнасьць у сьвяточнай зале прадстаўнікоў зь беларускай амбасады ў Літве й іхнюю матар'яльную падтрымку? Ня ведаю, але як і за савецкім часам у сьвяточным рэпэртуары назіралася яўная „фільтрацыя песьняў", падзел іх на дазволеныя й недазволеныя. Самай „крамольнай" выглядала песьня „Люблю наш край" на словы К. Буйлы.

Адным словам, усе, хто пабываў на сьвяце, за выняткам дзясятка недабітых нацыяналістаў, засталіся задаволеныя. І нездарма пачырванелы твар цяперашняга беларускага амбасадара ў Літве й былога вядомага савецкага культуртрэгера ў Беларусі сп. Я. Вайтовіча сьвяціўся радасьцю: ніякіх эксцэсаў не было! Праўда, у першым радзе сядзеў няўрымсны В. Савянкоў, які кожнае выступленьне артыстаў вітаў размахваньнем бел-чырвона-белага сьцягу. Але гэта засталося неяк незаўважным. Зноў жа, засталіся нікім (калі не лічыць аўтара рэпартажу) не зафіксаваныя й словы старшыні ТБК сп. Х. Нюнькі, які на пытаньне аднаго тэлежурналістага, ці падабалася яму сьвята, лаканічна адказаў: „Пір падчас чумы".

Мяне асабіста кранулі песьні ў выкананьні вакальнага дуэта „Акмяніне" з Салечніцкага раёну й трыо „Чараўніцы" з Трыбонісу таго самага раёну. Песьні ў іхнім выкананьні, хоць і крыху з польскім акцэнтам, але гучалі найбольш натуральна й непадробна на фоне штучных кветак „Сьвята беларускай песьні – 98".

А. М.

## Менскі паэт і былы палітвязень Славамір Адамовіч

наведаў 26 верасьня дамкі ТБК. Ён меў гутарку з старшынёю Таварыства сп. Х. Нюнькам і іншымі сябрамі ТБК, чытаў свае вершы, разважаў пра беларускую літаратуру й палітыку. На пытаньне пра ягоныя сёньняшнія палітычныя арыентыры й сымпатыі, сп. Славамір, адказаў, што БНФ паранейшаму зьяўляецца касьцяком беларускага нацыянальна-вызваленчага руху; Маладзёвы фронт – ягоным „мясам"; а з тых асяродкаў, дзе найбольш фармуецца беларускі дух, наш госьць назваў сучасны нашаніўскі асяродак. Такім чынам, мы маем своеасаблівую хрысьціянскую троіцу – і гэта цешыць. Сябры Таварыства запрасілі Славаміра Адамовіча прыехаць на паэтыцкую сустрэчу, на што ён даў згоду. Імпрэза мае адбыцца цераз месяц.



А. М.

## Чарговае паседжаньне рады ТБК

адбылося 6 кастрычніка. На радзе, апрача іншых аспэктаў дзейнасьці Таварыства, разглядалася пытаньне фінансаваньня газэты „Рунь". Старшыня ТБК, сп. Хведар Нюнька, паведаміў, што сёньня Таварыства ня мае грошай, каб пакрываць штомесячна друкарскія выдаткі на газэту. Было пастаноўлена, што з 17-га нумару друкарскія выдаткі таксама будуць пакрывацца за кошт рэдакцыйных грошаў, а гэта грошы з продажы газэты, з падпіскі й ахвяраваньняў на газэту. Нагадаем, што супрацоўнікі рэдакцыі заробкаў не атрымліваюць, гэтаксама не выплочваюцца аўтарскія ганарары, няма кампутарнай тэхнікі для макетаваньня газэты.

А. М.

## Госьця з Гданьску

спн. Лена Глагоўская, вядомая беларуская дзеячка ў Польшчы, наведала 30 верасьня Вільню. Падчас сваёй навуковай працы ў Цэнтральнай бібліятэцы, яна дала інтэрвію сябру рэдакцыі сп. С. Вітушку, у якім пагадзілася, што „беларусы Балтыі" ёсьць ня фікцыя й што беларусы зь ейнага роднага Гданьску належаць да гэтае катэгорыі, тым больш, што многія зь іх паходзяць менавіта зь Віленшчыны (як вынік эміграцыі паваеннай пары). Гутарку са спн. Глагоўскай чытайце на ст. 6.



*Л. Глагоўская (зьлева) падчас адкрыцьця помніка А. Стэповічу на могілках Роса. 1994.*

А. М.

**Добрая навіна, браце!**

У нас, у Вільні, на Заарэччы, **касьцёл Сьвятога Барталамэя** йзноў аддалі вернікам. Тут цяпер набажэнствы йдуць па-літоўску, па-польску, а таксама й па нашаму – па-беларуску! Браце, ты шукаеш праўды ў жыцьці? Толькі тут ты пачуеш праўдзівае слова Настаўніка, і пачуеш Ягоную навуку ў сваёй роднай мове.

Адрас нашага касьцёла:
**Užupio 17.**
А даехаць можна аўтобусамі NN 4, 10, 11, 27, 37 ці тралейбусам N 8 да прыпынка „Užupis".

***Беларуская каталіцкая грамада***

***1 лютага 1999 году***
*споніцца 80 гадоў*
*з дня заснаваньня славутай*

***ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.***

*З тае нагоды ў Вільні*
*плянуецца арганізаваць*
*музэйную выставу й выдаць зборнік мэмуараў.*
*Ласкава запрашаем адгукнуцца ўсіх,*
*хто мае якую-колечы інфармацыю пра нашую*
*легендарную навучальную ўстанову.*
*Нас цікавяць*
*рэчы, дакуманты, фатаздымкі,*
*якія датычаць гісторыі Гімназіі,*
*а галоўнае – успаміны*
*пра ейных настаўнікаў і вучняў.*

*Тэлефон для кантактаў:* ***65 50 69.***
*Адрас для допісаў: Сяргей Вітушка,*
***Kaminkielio 37-27, 2000 Vilnius, Lietuva***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# КАНЕЦ ІМПЭРЫІ

*Працяг са старонкі 1*

крытым аўкцыёне, як таго патрабуе рынкавая прыватызацыя ды элемэнтарная справядлівасьць, ельцынская каманда аддала прадпрыемствы й цэлыя галіны вытворчасьці (прычым галоўныя зь іх!) практычна задарма сваім хаўрусьнікам, блатным асобам з намэнклятуры й проста прадзісьветам, рабаўнікам бяз гонару й сумленьня. Самым жа ўрадам былі створаныя манаполіі гэтых рабаўнікоў, якія пачалі лупіць сваю дзяржаву, як сідараву казу.

Усе прыбыткі ад захопленых прадпрыемстваў рускія нуварышы забіралі сабе без ніякіх падаткаў у дзяржаўную казну, заробак работнікам таксама не выплочвалі, а нарабаваныя сродкі не рэінвеставалі ў вытворчасьць. Замест таго перапраўлялі грошы за мяжу ў заходнія банкі. І гэтае працягваецца па сёньняшні дзень...

Рабаўнічую прыватызацыю ажыцьцяўляў тады стаўленік Ельцына, прахадная фігура ў расейскай палітыцы Ягор Гайдар, які выконваў функцыю прэм'ер-міністра. Ён жа быў аўтарам імпэрскіх эканамічных прыёмаў: гэтак званага „дамінаваньня" расейскага рубля й нафтавага цэнавага шантажу, скіраваных перадусім супраць эканомікі Беларусі і Ўкраіны, што дало магчымасьць расейцам ня толькі добра абрабаваць іх, але й падарваць іхнюю фінансава-эканамічную стабільнасьць...

У выніку такой „прыватызацыі" невялікая група, у асноўным былых партыйных бюракратаў, разам з саўдзельнікамі заграбла ў 1992 годзе ў свае рукі багацьці дзяржавы на суму 150 мільярдаў даляраў. Грошы „новых рускіх" фінансавых магнатаў асядаюць за мяжой ня толькі ў банках, але і ў ювэлірных крамах, у нерухомасьці, на дарагіх францускіх курортах і г. д. Прыток іх павялічваецца адпаведна павелічэньню беднасьці ў Расеі.

## Алігархія

У 1992 годзе ў Маскве пачаліся чырвоныя выступленьні супраць гайдараўскай палітыкі. Неўзабаве Ельцын адхіляе Гайдара...

Маўр сваё зрабіў і зьнік. На ягонае месца прызначаецца В. Чарнамырдзін, чалавек са старой партыйнай намэнклятуры й з новых магнатаў. Як кажуць, пусьцілі казла ў агарод. Цяпер усё пайшло, як па маслу. 70% дзяржаўнай маёмасьці Расеі апынулася ў руках 9% насельніцтва... У далейшым, пры спрыяньні чарнамырдзінскага ўраду, адбылася жорсткая манапалізацыя й канцэнтрацыя ўсіх багацьцяў Расеі ў руках пары дзясяткаў нувaрышаў. Утварылася фінансава-эканамічная алігархія, якая захапіла ў свае рукі ня толькі фінансы й эканоміку Расеі, але й сродкі масавай інфармацыі: тэлебачаньне, радыё, друк, – кантралюе цэлыя галіны ўлады, крымінальны сьвет, шматлікія арганізацыі, уплывае на ўрад, на ўнутраную й вонкавую палітыку. Расейскіх „алігархаў" і кіраўнікоў фінансава-прамысловых групаў на Захадзе ведаюць лепш, чым расейскі ўрад, які пастаянна зьмяняецца.

Трэба зазначыць, што хаця вялікіх алігархаў і няшмат, але й яны падзеленыя на два варагуючыя лягеры. Так што па шчупальных законах цеснай сажалкі канцэнтрацыя капіталу ў постсавецкай Расеі працягваецца.

Вось ужо шэсьць гадоў зялёным вадаспадам плывуць у Расею крэдыты. За гэты час Расейская Фэдэрацыя атрымала з Захаду 50 мільярдаў даляраў. За шэсьць гадоў вонкавыя пазыкі Расеі вырасьлі да 150 мільярдаў даляраў, зь якіх 100 мільярдаў – пазыкі былога СССР. Сёлета Захад зноў вылучыў Расеі 22,6 мільярды даляраў. Амаль палова зь іх ужо даўно атрыманая. І ніякіх сьлядоў. Стартавалі грошы, як у космас. Шукаць іх, вядома, трэба ня ў космасе, а ў швайцарскіх банках на рахунках расейскіх алігархаў і іхняе чэлядзі. Мэханізм дзейнічае бездакорна. Рускі алігархізм стварыў такую ўсёпаглынаючую, зрошчаную з уладаю эўразіяцкую сыстэму карупцыі, такую разгалінаваную ў шырыню і ў глыбіню мафіёзную ўсепавязанасьць, жорсткую, прагную й безаглядную, – што ніякія крэдыты... не дапамогуць Расеі. Яны ў ёй не затрымліваюцца. Дзюра бяздонная, а сквапнасьць „вялікіх рускіх" неабмяжаваная.

## Банкруцтва

І вось асечка. Дэвальвацыя рубля. Дэфолт. Фінансавы крах імпэрыі. Расея адмовілася („часова", на тры месяцы) сплачваць свае пазыкі паводле абавязкаў. Гэта банкруцтва.

Падзеі разьвіваліся наступным чынам. Вясной узмацніўся крызіс у Паўднёва-Ўсходняй Азіі. Абвастрылася сытуацыя ў Інданэзіі... Інвэстары пакінулі інданэзійскі рынак... У красавіку пачаліся бунты. Прэзыдэнт Сухарта падаў у адстаўку...

Няма сумненьня, што алігархі й атачэньне Ельцына прааналізавалі сытуацыю... Асабліва Ельцына напалохала Інданэзія. Падзеі маглі разьвівацца так, што напачатку лета пачаўся б крызіс у Расеі. Тады адстаўка ўраду Чарнамырдзіна стала б непазьбежнай і ўся віна была б зваленая на гэты ўрад. Захісталася б крэсла пад Ельцыным, паплыў бы грунт пад багацьцямі алігархаў. Думская чырвона-імпэрская апазыцыя прапанавала б свайго прэм'ера й свой урад. Яе падтрымаў бы натоўп – і пайшло-паехала. Інвэстары разьбегліся б, рубель заваліўся б, а гандаль (імпарт) спыніўся б. Вось табе й Інданэзія, толькі горай.

Ніхто, вядома, не зьбіраўся „спасать Россию", думалі, як ўратаваць уладу, алігархаў і іхнія мільярды. Я не магу надзівіцца гэтай азіяцкай хітрасьці, гэтай мангола-візантыйскай палітыцы. Ельцын робіць падстаўку. Чарнамырдзін пакідае крэсла кіраўніка ўраду. Прэм'ерам-камікадзэ ставяць маладога нікому невядомага Кірыенку. Кірыенка закасаў рукавы, супакоіў заходніх інвэстараў і ўзяўся за рэформы. Тады алігархі ўзяліся за „народны пратэст". „Галодны народ" раптам пачаў бляхаваць чыгункі, а шахцёры грукаць плястмасавымі каскамі па асфальце. „Народны пратэст" пагоршыў стан ураду Кірыенкі й, як трэба было чакаць, справакаваў сэрыю хуткіх мільярдных крэдытаў з Захаду (якія алігархі тут жа пракаўтнулі, нават ня булькнула). І тады пачаўся крызыс..

Алігархі нічога ня страцілі. Толькі ўмацаваліся й набылі. Некалі ў расейскага гісторыка Карамзіна за мяжою адзін „скучалец" па Расеі спытаўся: „Как дела в России?" „Воруют," – адказаў Карамзін. Рускі тысячагадовы крызіс працягваецца.

## „Каша з кашалота"

З пункту гледжаньня сусьветнай гісторыі, эканомікі й палітыкі становішча Расеі выглядае крытычным...

Падобная крытычная сытуацыя ўзьнікла ў Польшчы ў 1989 годзе. (Праўда, там не было алігархаў). Краіну выратавалі рэформы паводле пляна Л. Бальцэровіча. Інданэзію, як бач, нічога ня выратавала.

Расея не жыве згодна прынцыпаў цывілізаванага сьвету... Тое, што мы бачым і чуем у Расеі, ня ёсьць такім у сапраўднасьці. Гэта грамадзтва распаўсюджанай крымінальнай сьвядомасьці й зрушаных, скарабачаных каштоўнасьцяў. „Умом Россию не понять", яна жыве міфамі й падсьвядомасьцю.

Выратаваць „імпэрыю зла" хутчэй за ўсё паспрабуе самое зло – дыктатура...

Ні Амэрыка, ні ўвесь сьвет ня змогуць ужо „спасти Россию". Прыватныя інвэстары цяпер туды ня пойдуць. Крэдыты ў любой колькасьці будуць прыўлашчаныя алігархамі й вывезеныя за мяжу... У Расеі няма нармальнага капіталізму й рынкавай эканомікі, іхнія мэханізмы адсутнічаюць, эканамічныя дачыненьні не працуюць. 50% капіталу, што адмываюцца ў банках, паходзяць з крымінальнай эканомікі, зь „цяневога" бізнэсу. Міжнароднае банкаўскае кіраваньне прадугледжвае кантроль, аўдытарскія праверкі банкаў, прадпрыемстваў, цэлых галінаў дзейнасьці. На гэтае крымінальны капіталізм ня пойдзе, ня кажучы ўжо пра імпэрскі гонар і замашкі „патрыётаў".

Праваддзеньне рынкавых рэформаў у Расеі, стварэньне дэмакратычнай сыстэмы капіталізму немагчымае без ліквідацыі алігархічнай групы, нацыяналізацыі ўкрадзенага й паўторнай прыватызацыі. На бліжэйшы час гэты варыянт адпадае, бо ў Расеі няма каму яго ажыцьцяўляць. Дэмакратаў у Расеі практычна не йснуе, а тыя, што імі сябе называюць, падтрымкай не карыстаюцца (прычым цалкам справядліва!). Парлямант у Расеі цяпер можа быць толькі чырвона-патрыятычным. Тое самае можна сказаць пра будучага прэзыдэнта і ўрад. Варыянт рускага Пінача безпэрспэктыўны з прычыны адсутнасьці нармальнага капіталізму ў Расеі. У Чылі быў капіталізм, існавалі ягоныя структуры й сыстэмныя дачыненьні. Трэба было толькі ачысьціцца ад камуністычнай заразы. У Расеі становішча тупіковае.

## Дыктатура

Відаць контуры некалькіх варыянтаў дыктатуры ў Расеі. Але я хачу адзначыць толькі адзін, самы верагодны, самы небясьпечны. Менавіта – беларускі варыянт: прыход да ўлады стаўленіка савецкага КДБ, самай магутнай сыстэмна-арганізацыйнай (не электаральнай, як камуністы) сілы ў палітыцы цяперашняй Расеі. Варыянт з Лукашэнкам, які яны распрацоўвалі ад пачатку й які ўдалося распазнаць і прытармазіць, – канчаткова не адкінуты. Выглядае так, што гэты варыянт кадэбоўцы хочаць „пракруціць" зь Лебедзем.

Прыход да ўлады ў Расеі стаўленьніка савецкіх спэцслужбаў пацягне за сабой „славянскую ідэю", рускіх фашыстаў, ДПА й іншых імпэрскіх патрыётаў. Перападзел маёмасьці станецца непазьбежным, з усімі вынікаючымі адсюль канфліктамі. А амэрыканскія крэдыты (ранейшыя й цяперашнія) добра паспрыяюць устанаўленьню „русского порядка".

Варыянт са стаўленікам КДБ найбольш пагрозьлівы для Эўропы й сьвету. Ядзерныя аргумэнты будуць ізноў уведзеныя ў палітыку, а спадзяваньні Амэрыкі мець Расею за саюзьніка супраць агрэсіўнага ісламскага тэрарызму й злачынных рэжымаў на Ўсходзе – марныя ўжо нават цяпер. Карычневая імпэрская Расея й дыктатарскія рэжымы на Ўсходзе знойдуць агульныя антыамэрыканскія інтарэсы.

Чым небясьпечны гэты варыянт дыктатуры й чаму ён больш рэальны, чым, скажам, мадэль „рускага Пінача"? Справа тут ня толькі ў тым, што ў Чылі быў капіталізм, а ў Расеі – пародыя на яго. Расея дэмаралізаваная й сьпітая. Масы людзей абрабавалі, пазбавілі ўпэўненасьці, гарантаванага кавалка хлеба, спакою й надзеі. Агульныя настрої – абыякавасьць і нянавісьць, якая ўзрастае. Няма ніякіх агульналюдзкіх ідэяў, ніякіх супольных нацыянальных ідэалаў, акрамя вялікаімпэрскіх уяўленьняў. Рэлігійнасьць у Расеі заўсёды была слабой і мела фармальны характар, была атрыбутам імпэрыі. У такіх абставінах азлобленны чалавек шукае вінаватых. Задача разбуральных палітыкаў знайсьці пастаянна вінаватых, стварыць пастаянных ворагаў і павесьці масы за сабой на барацьбу зь імі. Гэта від сацыяльнай параноі, якая йснуе ў формах ідэалёгіі. Яе нельга недаацэньваць.

## Пашырэньне на ўсход

Ня ў рускую алігархію й ня ў будучую карычневую Расею павінен быў бы Захад укладваць сродкі, а падумаць пра рэальнае й канкрэтнае пашырэньне на ўсход дэмакратычнай прасторы Эўропы. Беларусь, Украіна, Малдова, Балтыя павінныя былі б атрымаць падтрымку для сваіх незалежніцкіх нацыянальных сілаў, каб дэмакратыя там хутчэй стала на ногі. Гэта й быў бы рэальны пачатак канца „Ялты" й глеба стабілізацыі на Ўсходзе. Самае дрэннае, што Захад, прымітыўна паставіўшы на ўяўную дэмакратыю й рэформы ў Расеі, пагадзіўся з рускімі імпэрскімі інтарэсамі й фактычна здаў Усходнюю Эўропу й Каўказ у сфэру ўплыву рускага імпэрыялізму. А Беларусь, пасьля захопу там улады савецкім КДБ, была ціха прададзеная за пашырэньне NATO. Беларусь здалі, каб выйграць у Расеі. Цяпер з трэскам прайгралі Расею. Хто на чарзе?..

Баючыся абстрактнага нацыяналізму й не разумеючы, што адбываецца ў Беларусі, Захад схільны падтрымліваць розных маргіналаў, „сінякурныя" арганізацыі й проста выпадковых асобаў, але не незалежніцкія нацыянальныя сілы. Тым самым Захад... старaецца не дражніць Расею. Палітыка Захаду ў гэтым сэньсе ёсьць паводзіны сьцёртай памяці, сьцёртага пазытыву. Гісторыя эўрапейскай свабоды сьцёрлася зь ягонага інтэлекту. Тут не разумеюць, што нацыянальныя, незалежніцкія, антыімпэрскія сілы на Ўсходзе гэта й ёсьць гарантыя сапраўднай дэмакратыі, рынкавай эканомікі й інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць. Зважаючы на верагоднасьць фашыстоўска-кадэбоўскай дыктатуры ў Расеі, Захад павінен быў бы мець зацікаўленьне ў моцнай, незалежнай Беларусі і Ўкраіне і ў знаходжаньні іх у сфэры эўрапэйскіх дачыненьняў. Карычневая Расея безь Беларусі і Ўкраіны ўяўляла б значна меншую пагрозу для Эўропы.

. . . . . . . . . . . . . . .

## Пра Беларусь

...Тут няма алігархіі тыпу расейскай. Існуе толькі адзін алігарх і ягоная каманда. Створаная мафіёзная мадэль гэтак званага „рынкавага сацыялізму", дзе „сацыялізм" для народа й дзяржавы, а „рынак" для прэзыдэнта й кампаніі. Адпаведна йснуюць два бюджэты: „сацыялістычны" (гэта значыць – дзяржаўны) і „прэзыдэнцкі" (гэта значыць – свой). Структура – адкрыта крымінальная. Аднак два бюджэты ў адной дзяржаве – гэта адзін той самы бюджэт, падзелены на дзьве часткі. Другая частка – гэта тое, што ўкрадзена.

Такая крымінальная схема часовая, бо эканоміка асуджаная на дэфіцыт і заканчваецца ўсё поўным калапсам, які пачнецца гэтак жа нечакана, як і банкруцтва Расеі. Ніякіх асобных дзяржаўных крокаў у абароне беларускай эканомікі й дзяржавы ад мэтастазаў расейскага абвалу рэжым Лукашэнкі рабіць ня будзе. Хутчэй за ўсё пастараюцца скарыстаць банкруцтва Расеі, каб аб'яднацца „навекі" з канаючай імпэрыяй (і не шукайце лёгікі ў сытуацыі абсурду). Фінансавы крах можа прывесьці да хуткіх выбараў у Расеі. Каб патрапіць на гэтыя выбары, інтэгратары-камбінатары зноў пачнуць „аб'яднаньне славянаў". Такія авантурныя панічныя крокі ўжо робяцца. Канаючая імпэрыя імкнецца анэксаваць і пацягнуць за сабой у небыцьцё Беларусь, а Лукашэнка марыць напасьледак пакіраваць Расеяй.

Баль падчас чумы. Беларусы павінныя быць як надалей ад гэтага нэкрафільскага балю. Беларуськія вызвольныя сілы, усе беларусы, каму дарагая нашая Бацькаўшчына й свабода, павінныя цяпер, як ніколі, цьвёрда стаць на абарону нашай незалежнасьці, нашай дзяржавы й нашай нацыі, быць гатовымі ня страціць ні момант, ні час для ліквідацыі зла.

XXI стагодзьдзе Вольная Беларусь павінная спаткаць без дыктатуры.

**Зянон Пазьняк**
*Нью-Ёрк*

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# УСПАМІНЫ

## З кнігі ўспамінаў Алеся Алехніка „Memento patriam“

Пачатак у N16

### Лягер Джындабайн

Пасёлак Джындабайн стаіць на галоўнай дарозе, што колісь ішла ад станцыі г. Кума (цяпер той станцыі ўжо няма й чыгунку, па якой мы прыехалі ў Кума, закрылі) да



А. Алехнік (першы) на вяровачным мосьце цераз раку Сьнежная. Студзень 1952.

адкрытага яшчэ ў 1929 годзе сьнежнага курорту Jindabyne. Тагды курорт складаўся з аднаго гатэля-карчмы, пошты, адной мэдсястры (дохтара не было), якая апекавалася людзьмі з усяе акругі й залагоджвала ўсе, ня надта сур'ёзныя мэдыкальныя праблемы, і некалькіх крамніцаў, пераважна мясных. У Jindabune ў той час жыло нешта каля 900 асобаў і ўсё сацыяльна-культурнае жыцьцё віравала навокал гатэля-карчмы, у бар якога напіхвалася й нейкім цудам зьмяшчалася велізарная колькасьць людзей, што прыходзілі сюды выпіць піва, пагутарыць і, што вельмі важна для падвыпіўшых, даказаць стаячаму побач гэткаму самаму піяку свой пункт гледжаньня. Апанэнт аднак таксама нікога ня слухаў і „на ўсё горла“ даказваў сваю праваду.

Аўстралія тагды, да пачатку вялікай пасьляваеннай эміграцыі з Эўропы, жыла сваім спакойным, ізаляваным ад эўрапэйскай цывілізацыі жыцьцём. Вельмі шмат тагачасных аўстралійскіх законаў і звычаяў было для нас, эмігрантаў, незразумелымі й „архаічнымі“. Напрыклад, у 1951 годзе згодна закону бары ў гатэлях-карчмах зачыняліся вельмі рана, а 6-ай вечара, і рабочыя, якія скончвалі працаваць а 5-ай гадзіне, а не дык і крыху пазьней, — стараліся як найхутчэй дабегчы да бліжэйшага бара й літаральна „ўліць“ у страўнік як мага больш кухляў піва. На пустыя страўнікі добраалкагольнае аўстралійскае піва дзейнічала як мае быць, і а 6-ай наведнікі выходзілі з бару на добрым падпітку ці наогул ішлі дамоў „на ўсіх чацьвярых“. Добра знаючы гэта, мясцовая паліцыя прысылала да гатэля-карчмы найбольш дужых паліцыянтаў, каторыя ўспакойвалі й разводзілі тых, хто кулакамі даказваў сваю праваду. Тых жа хто ня мог ісьці, паліцыя саджала ў спэцыяльную камэру, штрафавала на 10 шылінгаў, а раніцай адпускала дамоў.

Будучы адзіным з нашай групы, хто валодаў ангельскай мовай, я стаўся вельмі „папулярным“, залагоджваючы розныя моўныя праблемы й перакладаючы з польскай, сэрбскай і баўгарскай на ангельскую й наадварот. Чытач добра зразумее сытуацыю, у якой я апынуўся, калі даведаецца, што з усіх пералічаных моваў я добра разумеў толькі польскую, а па-сэрбску й па-баўгарску разумеў слаба. Ды змушаны быў неяк усё залагоджваць і ўсім дапамагаць. Грошы за свае паслугі ніколі й ні ад кога ня браў.

Што да вынікаў маёй „дапамогі“, дык яна часам была нават большая, чым я спадзяваўся. Аднаго разу зьвярнуўся да мяне ў Jindabune адзін югаслаў-чарнагорац з просьбаю патлумачыць, што яму напісала ягоная каханка-полька. Я як мог растлумачыў зьмест еёнага ліста. Павінен шчыра прызнацца, што не разумеў і паловы з таго, пра што гаварыў чарнагорац, а той, напэўна, настолькі ж разумеў мяне. Але я чытаў яму лісты, пісаў адказы на іх, і, як пасьля аказалася, быў вялікай дапамогай у іхнім каханьні, бо яны (ужо пасьля таго, як я пакінуў працу ў Сьнежных Горах) пабраліся шлюбам і назаўсёды засталіся жыць у Куме.

У лягеры Джындабайн мы жылі ня надта доўга, але там я меў нагоду спаткацца зь людзьмі розных нацыянальнасьцяў, каторыя праходзілі праз гэты лягер па дарозе ў розныя часткі Сьнежных Гораў. Спаткаў я там двух братоў-палякаў, народжаных у Беларусі, недзе пад Лідай, каторых бальшавікі вывезьлі ў 1940-м годзе на Сыбір і каторыя пасьля служылі ў арміі генэрала Андэрса. Абодва браты бралі ўдзел у цяжкіх



На схілах Сьнежных Гораў. Зьнізу відаць рэчку Сьнежную. Студзень 1952.

баях зь немцамі ў Італіі за крэпасьцьвышыню Монтэ Касыно, дзе як сьлед умацаваныя нямецкія дывізіі адбівалі лезучых угару й атакуючых аліянтаў. Немцы пры гэтым выкарыстоўвалі розныя мэтады абароны, у тым ліку й прымітыўны, але эфэктоўны мэтад спусканьня вялізных камянёў, якія са страшэннай хуткасьцю ляцелі долу, руйнуючы ўсё, што траплялася на іхнім шляху: дрэвы, танкі, жаўнераў. На тых горных схілах палягло й шмат беларусаў, вывезеных маскалямі ў Сыбір, каторыя пайшлі ў армію Андэрса.

Як ведама, польскі корпус Андэрса асягнуў перамогу там, дзе цярпелі паражку за паражкай ангельцы. Цяжкія баі пад Монтэ Касыно зрабілі моцныя ўражаньні на вышэйзгаданых братоў-палякаў зь Беларусі, зь якімі ў мяне навязаліся вельмі прыязныя адносіны й якія вельмі прыхільна ставіліся да мяне, як да беларуса, гутарылі на добрай беларускай мове, станоўча ўспрымалі ідэю незалежнасьці Беларусі. Старшы брат Болек, выпіўшы піва, знаходзіў сабе мейсца ў куточку й, памінаючы палеглых у баёх за Монтэ Касыно, ціхенька сьпяваў сабе песьню напісаную спэцыяльна ў гонар жаўнераў Андэрса „Чэрвонэ макі под Монтэ Касыно“. Малодшы брат пад уэьдзеяньнем піва напаўняўся страшэннаю нянавісьцю да немцаў, і гэтая нянавісьць, зусім зразумелая ў ягоных абставінах, ледзьве не давяла яго аднойчы да трагедыі.

Адзін паляк, які разам са мной на параплаве прыбыў у Аўстралію, Юзэк Букоўскі, меў у Нямеччыне дзяўчыну-немку, каторую любіў і плянаваў сьцягнуць да сябе ў Аўстралію, як жонку. Аднаго вечара я пачуў зь ягонага пакою вельмі злосны крык і, зайшоўшы да яго, убачыў, што сам Букоўскі сядзіць на ложку, а малады паляк зь Беларусі трымае нацэленае проста яму ў лоб ружжо й крычыць, што ўсіх немцаў трэба біць, а таксама й тых, хто любіць немцаў. Не здаючы сабе справы, пра што ідзе гаворка, я падскочыў і падбіў дула ўгару — акурат у той мамэнт, калі малады паляк націснуў курок. Куля ўбілася ў сьцяну, а я вырваў ружжо зь ягоных рук і выйняў затвора. Назаўтра гэты малады паляк ад шчырага сэрца падзякаваў мне, што не здарылася непапраўнага, аднак усё роўна немцаў і ўсіх, хто іх любіць, ненавідзеў паранейшаму.



Лягер Маньянг. Люты 1951.

Неўзабаве пасьля гэтага выпадку ўсіх нас падзялілі на 3-4 асабовыя групы й разаслалі па розных каморніцкіх групах у Сьнежных Горах, і я разам з ужо спамянутым Юзэкам Букоўскім з Лодзі й другім палякам з Сьлёнзку, Зыгмутам Матушэўскім, апынуўся ў мясцовасьці Ман'янг на беразе ракі Сьнежная — амаль насупраць таго мейсца, дзе ў Сьнежную ўпадае меншая рэчка Ман'янг. Там мы паставілі свае палаткі й там пачалася мая сапраўдная праца на пабудове гідраэлектрычнай сыстэмы пад кіраўніцтвам інжынера-каморніка Бэна Вільямса з Новай Зэляндыі.

### Жыцьцё й праца ў лягеры Маньянг

Скора наш „палатквы“ лягер на беразе Сьнежнай пачаў пашырацца: прыехалі першыя будаўнічыя групы. І яны першнаперш працягнулі вяроўкі над ракою й зрабілі вяровачны мост. Аднак, каб хадзіць па ім, трэба было быць добрым акрабатам. У лютым наш Ман'янг-лягер налічваў ужо звыш 20-ці палатак і ўважаўся за вялікі, але дарогу да яго бульдозеры яшчэ не прабілі і ўсё неабходнае трэба было насіць на плячох або вазіць на конях.

Будучы яшчэ ў барачным лягеры ля Джындабайн, я паведаміў, дзе я ёсьць, сваіх знаёмых беларусаў, каторыя паехалі на жыцьцё ў ЗША, асабліва сп. Барыса Шчорса, і з часам атрымаў ад яго першы ліст, а таксама й выдаваную ў Амэрыцы беларускую газэту „Беларуская Трыбуна“.

Усьцяж разбудовы лягеру Маньянг прышлі розныя праблемы зьвязаныя з забесьпячэньнем рабочых патрэбнымі рэчамі, асабліва харчаваньнем, і ў лютым-сакавіку здараліся заразам і сумныя, і сьмешныя эпізоды, якія не магу абмінуць у сваіх успамінах.

Вось адзін з такіх эпізодаў. Было пастаноўлена прызначыць кухара, каб ён гатаваў усім ежу, і абралі рабочага па мянушцы „Джон“ або „Янка“. Было таксама пастаноўлена, што кожны дасьць у складчыну па 10 фунтаў, зь якой будуць купляцца патрэбныя нам прадукты. Далучылася да нас і вялікая група інжынэраў-будаўнікоў. Усяго сабралі 2 тыс. фунтаў, далі іх таму „Джону“ й паслалі за пакупкамі ажно ў горад Кума. А трэба сказаць, „Джон“ ніколі не галіўся й твар ягоны быў настолькі зарослы рыжымі валасамі, што за імі нават ягоных вачэй не было відаць. Праходзіць дзень, другі, трэці, - а яго як не было, так і няма! Пасьля даведаліся, што ён, прыехаўшы ў Кума, пагаліўся, пастрыгся й нават штучна пачарніў валасы, ды паехаў Бог знае куды. 2 тыс. фунтаў былі на той час вялікімі грашыма, і за іх у самым Сыднэі можна было купіць добры дом, а ў правінцыі — нават тры дамы!

Другі такі эпізод. Кілямэтраў у 20-х ад нашага лягеру пры дарозе ад Jindabune да сьнежнага курорту ў Charlotte Pass стаяў невялікі драўляны гатэль „Касьцюшка“. Сьнежнагорскае Праўленьне дамовілася з мэнэнджэрам гэтага гатэлю аб прадажы нам піва (па дзьве бутэлькі на чалавека). Мы зноў сабралі грошы й паслалі па піва аднаго рабочага, які празываўся „Джэк“, з чатырма грузавымі канямі. Гэты „Джэк“ да гатэля, пэўна, імчаў на ўсю скорасьць, але пагрузіўшы нашае піва, назад у лягер не сьпяшаўся. І мы ноччу часта чулі, як ён сьпяваў недзе ў горах, расьпіваючы нашае піва! Вярнуўся „Джэк“ толькі за тызень часу. І я замест дзьвюх бутэлек піва атрымаў толькі адну. Сьмяяліся ў лягеры, што наш „Джэк“ нават коней паіў нашым півам, быццам яны па павароце ў лягер былі настолькі п'яныя, што не стаялі на нагах. Іншым разам я не дастаў жоднай бутэлькі й, дзякуй Богу, неўзабаве пасьля гэтага пакінуў лягер Маньянг і пайшоў вымерваць іншыя часткі Сьнежных Гораў.

І яшчэ адзін эпізод. Скора пасьля таго, як перацягнулі цераз Сьнежную вяровачны мост, нашай групе трэба было ўсьці вышэй у горы вымерваць месца пад пачатак аднаго з самых першых тунэляў. Па дарозе нам давялося пераходзіць рэчку Ман'янг, якая была хоць і вузейшая за Сьнежную, але плыла з маланкавай хуткасьцю. Узьнімаючыся, мы ня мелі жоднай праблемы пры пераходзе гэтай рэчкі: перайшлі яе, пераскокваючы з аднаго вялікага камяня на другі, і палезьлі вышэй, цярэбячы сабе сьцежку вялікімі нажамі, якія мы называлі „мачэты“. Аднак вечарам, вярнуўшыся да шпаркай горнай рачулкі, убачылі, што вада ў ёй паднялася мэтры на паўтары й жоднага камяня ўжо не відаць. Нехта з нас прапанаваў крычаць, аж пакуль не пачуюць у лягеры й не перакінуць нам цераз раку паесьці, каб мы заначавалі тут да ранку. Адкінулі гэтую прапанову. Пастанавілі пераходзіць на той бераг. Кожны з нас насіў у рэчмяшку прыблізна 4 мэтры тонкай, але добрага

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



гатунку вяроўкі, і мы зьвязалі кавалкі разам, прывязалі досыць вялікі камень да аднаго канца й пачалі кідаць яго на другі бок, а затым цягнуць да сябе, каб ён за нешта трывалае зачапіўся. Кідалі ажно да сутоньня, пакуль камень надзейна не захрас, прывязалі наш канец вяроўкі да дрэва й пачалі пералазіць рэчку.

Я й трох іншых рабочых, уключаючы інжынэра Вільямса, пастанавілі распранучца й пераходзіць сьцюдзёную рэчку голымі, з разьлікам, перайшоўшы, адразу налажыць сухое адзеньне й гэтым уратаваць сябе ад



Кармленьне кенгураняткі, якое страціла матку.

прастуды. Аднак адзін незнаёмы мне паляк не пагадзіўся з гэтым, сказаўшы, што яму „бардзо зімно“, і што ён палезе ў ваду апрануты. Як толькі я, моцна трымаючыся за вяроўчыну, ступіў у ваду, адразу страціў усё пачуцьцё ў нагах... Мушу прызнацца, каб рэчка была на некалькі мэтраў шырэйшая, ня ведаю, ці я даў бы рады.

Перайшоўшы на другі бок, я ўбачыў, што ногі мае ў крыві, – але жоднага болю не адчуваў. Я, як і ўсе іншыя, адразу пачаў націраць скалелыя ногі сухою вопраткаю, якую мы перанасілі на галаве, і толькі за некалькі хвілінаў ізноў пачуў „сэнсацыю“ болю у абдзёртых на камянях нагах. Мы апрануліся ў сухое, хуценька перайшлі па вяровачным мосьце Сьнежную й пабеглі ў свае палаткі... А той рабочы, які хацеў, каб яму было „цепло“ пры нашай пераправе цераз горную рачулку, захварэў на запаленьне лёгкіх. Яго адвезьлі канём да дарогі й болей я яго ўжо ніколі ня бачыў. Спадзяюся, што ён ачуняў і таксама дажывае свой век шчасьліва.

Вярнуўшыся ў палатку, я запаліў сваю керасінавую лямпу, а пасьля запалілі на дварэ агонь і зрабілі гарачага чаю, адкрылі рыбную кансэрву й, смачна павячэраўшы, ляглі спаць пад акампаныямэнт хутка-бягучай Сьнежнай ці Сновы-рэчкі...

Скора пасьля гэтага, 16 сакавіка 1951 году, у нашым Маньянг-лягеры выпаў першы вялікі сьнег і пад канец сакавіка мяне перавялі крыху бліжэй да цывілізацыі, ізноў пад пасёлак Джындабайн, дзе мы паставілі палаткі на беразе невялічкай рачулкі Saw Pit Greek. Жывучы на Соў Піт Крык толькі ў некалькіх кілямэтрах ад ужо згаданага гатэлю „Касьцюшка“, мы цудоўна сябе пачувалі, бо нават напеша маглі хадзіць у гэты гатэльчык, каб зьесьці там нешта гарачае й, што асабліва, пафліртаваць з прапуючымі там дзяўчатамі. На вялікі жаль, гатэль „Касьцюшка“ згарэў ноччу 20 красавіка й некалькі ягоных гасьцей-турыстаў прыбегла начаваць да нас у палаткі. Двое зь іх спалі ў маёй палатцы, а я зь іншымі рабочымі аж да раніцы сядзеў у палатцы-кухні. Гатэль „Касьцюшка“ так і ня быў адбудаваны, і Сьнежныя Горы страцілі адну з сваіх гістарычных установаў.

**Алесь Алехнік**
*Аўстралія*

# ПОСТАЦІ

## З ФАТААРХІВУ ПРАФЭСАРА ПРАНАСА БУЦКУСА

***Усё жыцьцё прафэсара хіміі Пранаса Буцкуса зьвязанае зь Віленскім краем. Тут ён нарадзіўся, у мясцовасьці Валькінінкай 50 кілямэтраў ад Вільні, вучыўся ў польскай пачатковай школе. Тут ён, апрача літоўскіх і польскіх газэтаў, чытаў і „Беларускую думку“, чуў беларускую мову й „Лявоніху“, даведаўся пра ксяндза Адама Станкевіча.***

***У 1950 годзе, скончыўшы Віленскі ўнівэрсытэт, Пранас працягваў адукацыю ў аспірантуры Маскоўскага ўнівэрсытэту, а потым, амаль 10 гадоў, працаваў выкладчыкам хімічнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Затым 24 гады быў прарэктарам навуковай работы Віленскага пэдінстытуту (цяпер унівэрсытэту), у якім на катэдры нямецкай мовы працавала й дацэнт Галіна Войцік, жонка Лявона Луцкевіча й дачка Зоські Верас.***

***Праф. Пранас Буцкус аўтар больш 100 навуковых артыкулаў па арганічнай хіміі й гісторыі хіміі, шмат якіх навукова-папулярных артыкулаў. Ён склаў кнігу для чытаньня па арганічнай хіміі для літоўскіх і расейскіх школаў.***

***Будучы інтэрнацыяналістам паводле свайго сьветапогляду, праф. Пранас Буцкус клапоціцца пра захаваньне шматнацыянальнага культурнага аблічча нашага ўнікальнага гораду, друкуе свае ўспаміны ў літоўскай, польскай, расейскай, жыдоўскай прэсе. Пазнаёмім зь ягонымі ўспамінамі й нашых чытачоў.***

### Студэнцкія ўспаміны пра Лявона Караля і Ўладзіміра Парфенава

У 1945-1950 гадох я вучыўся на хімічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У тыя першыя пасляваенныя гады нацыянальны склад студэнтаў быў вельмі разнастайны. Большасьць іх, канечне, складалі літоўцы, але апрача іх былі расейцы, палякі, беларусы, жыды й нават караімы. Зь беларускіх студэнтаў мне асабліва запомніліся Леванід Кароль і Ўладзімір Парфенаў. Абодва потым сталіся вядомымі беларускімі дзеячамі ў Вільні, а таксама й прыкметнымі літоўскім хімікамі-навукоўцамі:



Навуковы кружок студэнтаў катэдры фізычнай хіміі Віленскага ўнівэрсытэту. 1948.

Л. Кароль пасьпяхова працаваў у Навукова-дасьледчым інстытуце электраграфіі, а У. Парфенаў – у Інстытуце хіміі Акадэміі навук Літвы. Я добра помню, што абодва яны вучыліся ва ўнівэрсытэце зь перапынкамі, бо былі перасьледаваныя савецкаю ўладаю за „беларускі нацыяналізм“. Помню таксама, што Леванід Кароль ужо падчас навучаньня лічыўся вельмі пэрспэктыўным студэнтам і працаваў лябарантам катэдры фізычнай хіміі. У мяне захаваўся фатаздымак навуковага кружка студэнтаў катэдры фізычнай хіміі: пасярод сядзіць прэзыдэнт Акадэміі навук Літвы, праф. Ёзас Матуліс, першы справа сядзіць Л. Кароль, а за ім стаіць У. Парфенаў.

### Два сябры па мастацтву

На фатаздымку 1926 году мы бачым хор горада Вільні. Чацьверты зьлева сядзіць вядомы кампазытар, дырыжор і пэдагог Канстантынас Галкаўскас (1875-1963). Будучы расейцам паводле паходжаньня (Канстантын Галкоўскі) й праваслаўнага веравызнаньня, ён стаў заслужаным дзеячам Літвы, народным артыстам рэспублікі, увайшоў у гісторыю мастацтва й культуры нашае краіны як вялікі патрыёт Нёманскага краю.

Шосты зьлева сядзіць вядомы беларускі харавы дырыжор, музыказнаўца й фальклярыст Рыгор Шырма (1892-1978), тадышні кіраўнік хору, будучы стваральнік і кіраўнік Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы Беларусі, старшыня Праўленьня Саюза кампазытараў Беларусі, народны артыст СССР, Герой сацыялістычнай працы.

Праф. К. Галкаўскас нарадзіўся й памер у Вільні. Тут, за выняткам навучаньня ў Пецярбурскай кансэрваторыі й эвакуацыі ў Маскву падчас Першай сусьветнай вайны, прайшло ўсё ягонае доўгае жыцьцё. З 1908 году ён выкладаў і чытаў лекцыі музыкі ў віленскіх музычных і агульнаадукацыйных школах, у тым ліку ў Рускай гімназіі імя А. Пушкіна, у Літоўскай гімназіі імя Вітаўта Вялікага і ў Жыдоўскім музычным інстытуце. Пасьля Другой сусьветнай вайны ён быў прафэсарам Літоўскай кансэрваторыі (зараз Акадэмія музыкі).

У 1928 годзе Віленская Беларуская Гімназія наладзіла канцэрт славянскай песьні зь лекцыяй К. Галкаўскаса, якая пакінула вялікае ўражаньне. Для беларусаў кампазытар напісаў 100 твораў. У зборніку „Беларускія народныя песьні“, складзеным і выдадзеным у 1929 годзе Рыгорам Шырмам, зьмешчана 25 хароў К. Галкаўскаса, а ў зборніку „Наша песьня“ – 5 хароў: „А ў гаспадара“, „Ходзіць пава па вуліцы“, „Ой, за ліхімі, за марозамі“ й „Ой, па гары, па даліне голубы лятаюць“.

Пра гэтыя хары былі вельмі добрыя водгукі ў тагачасным віленскім друку.

Рыгор Шырма прыехаў у Вільню ў 1910 годзе. Пазьней быў настаўнікам у Лідзкім і Сьвянцянскім паветах, „падарожнічаў“ падчас Першай сусьветнай вайны. Праца Р. Шырмы як настаўніка сьпеваў і беларускай літаратуры ў Віленскай Беларускай Гімназіі ёсьць пачатак ягонай шматгадовай дзейнасьці дырыгента, выхаваўцы плеяды аматараў і прафэсыяналаў харавога мастацтва. Былы гімназіст, вучань Рыгора Шырмы й будучы народны артыст СССР Генадзь Цітовіч згадвае, што гімназіяльныя заняткі з Р. Шырмам паўплывалі на яго найбольш у жыцьці. У кнізе „Рыгор Рамнавіч Шырма“ І. Нісьневіч піша, што Шырма „даў пуцёўкі“ ў вялікае мастацтва Леаніду Мурашку, Уладзіміру Рубацкаму, Віктару Роўдзе, Зьмітраку Рулінскаму, Леаніду Фёдараву. Як вядома, апошнія дзесяцігодзьдзі жыцьця й плённай дзейнасьці Р. Шырмы праходзілі ў Менску.

У 1955 годзе ў лісьце да Р. Шырмы К. Галкаўскас піша, што менавіта праз беларускія мэлёдыі ён выразна ўбачыў жыцьцё, мары й спадзяваньні народа. У тым самым годзе сябры па мастацтву зноў змаглі ўбачыцца.

Цікава, што жыцьцё як К. Галкаўскаса, гэтак і Р. Шырмы было цесна зьвязанае з царкоўнай музыкаю й сьпевамі. Першы зь іх доўгі час быў арганістам рэфармацкай царквы. У доме, які прыналежыў да гэтае царквы, К. Галкаўскас і жыў доўгі час, з 1918 да 1959 году, г. зн. 40 гадоў. Пра гэта сьведчыць мэмарыяльная табліца на муры таго дому на былой Завальнай (цяпер вул. Піліма). Р. Шырма таксама быў рэгентам праваслаўнага Прачысьценскага сабору і з 1928 да 1939 году жыў у царкоўным доме на вул. Сьв. Ганны (цяпер Майронё). Пра тое таксама сьведчыць мэмарыяльная табліца на літоўскай і беларускай мовах: „У гэтым доме з 1928 да 1939 году жыў беларускі фальклярыст, харавы дырыжор, рэгент Прачысьценскага сабору Рыгор Шырма“.

Трэба адзначыць некаторых удзельнікаў хору на фатаздымку.

Першы зьлева сядзіць Хведар Матвеец, тадышні рэгент архірэйскага хору Сьвята-Духава манастыра, першы справа – Яўген Багдановіч. Побач з К. Галкаўскасам (зьлева) сядзіць Клаўдыя Шырма, жонка Р. Шырмы й будучая артыстка харавой капэлы Беларусі зь першага дня яе існаваньня. У цэнтры першага раду стаіць рэгент царквы на Пагулянцы (цяпер вул. Басанавічуса) Іван Агіевіч, будучы рэгент хору Сьвята-Духава манастыра. За Р. Шырмам стаіць будучы харавы дзеяч Леанід Фёдараў. Першая на доле (зьлева) сядзіць будучая мастачка Вольга Фёдарава.



Беларускі Віленскі Хор. 1926.

*Праф.* **Пранас Буцкус**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ЯКОМУ БОГУ МАЛІЦЦА?

*Працяг са старонкі 1*

сусьветнай вайны, калі іншыя цэрквы заклікалі народ на барацьбу зь бязбожным камунізмам. Тады Сталін дазволіў вызваліць зь лягероў ацалелых сьвятароў, дазволіў званіць у званы й адпраўляць багаслужбы, а за гэта царква актыўна падтрымоўвала камуністычную прапаганду й дапамагала духова й матар'яльна ў вайне.

Таму нічога дзіўнага, што пасьля вайны высокія царкоўныя дастойнікі, разам з партыйнымі дзеячамі, адзначаліся аднолькава камуністычнымі ордэнамі й мэдалямі за свае заслугі. Быў гэта час, калі царква ў Савецкім Саюзе шую прапаганду на Захадзе, як ягоныя амбасадары.

На працягу стагодзьдзяў Руская Праваслаўная Царква адмаўляла народам свае імпэрыі права на ўжываньне роднай мовы ў царкоўным і культурным жыцьці, яна іх русыфікавала, у тым ліку й беларусаў. Такое бясправе з боку каталіцкай царквы наглядалася супраць беларусаў і украінцаў у міжваеннай Польшчы 20-30-х гадоў, дзе войт у гміне, паліцыянт на пастарунку, а ксёндз з амбоны кіравалі Заходняй Беларусяй і Украінай.

Калі апосталы славянскай літургіі ў Маравіі (IX ст.) Канстантын-



Здымак Генадзя Жынкова

зноў апынулася пад перасьледам атэістаў, але ейныя рускія іерархі, крывячы душой, гаварылі, што ў іх свабода рэлігіі і ўлады не мяшаюцца ва ўнутраныя справы царквы. А з нагоды 50-х угодкаў Кастрычніцкай Рэвалюцыі патрыярх Алексій сказаў: "Уважаем за шчасьлівую тую акалічнасьць, што наша Царква йснуе ў варунках сыстэмы сацыялістычнай. У гэтым часе наш народ рыхтуецца да ўрачыстага ўшанаваньня 50-годзьдзя Вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Рыхтуемся да яе й мы, веруючыя грамадзяне, бо-ж высока цэнім гэтае несумненнае шчасьце, якое прынесла нашай Бацькаўшчыне Кастрычніцкая Рэвалюцыя!" Ангельская газэта „Дэі Майл он Саднэй" (29.03.1992) падае імёны трох патрыярхаў РПЦ, якія былі сталымі агентамі КДБ на працягу 20-ці гадоў! А былі й іншыя падобныя да іх іерархі. Выкарыстоўваючы рэлігійных агентаў, КДБ рабіў боль-

Кірыл і ягоны брат Мяфодзі вярталіся дамоў са свае славянскай місіі, яны затрымаліся ў Вэнэцыі й патрапілі на каталіцкі сабор. Там ім пачалі закідаць, чаму яны вучаць на варварскай славянскай мове, калі ёсьць тры галоўныя мовы: лацінская, грэцкая й габрэйская. На што Канстантын адказаў: "Вы зьяўляецеся вучнямі Пілата, бо Пілат загадаў напісаць і ўмясьціць над галавой Укрыжованага Хрыста абвестку на трох гэтых мовах!"

Мы не знаходзім у гісторыі выпадку, каб РПЦ выступіла калі ў абароне вязьняў сумленьня за свае палітычныя перакананьні.

Ісус Хрыстос сказаў, што ўсе людзі перад Богам роўныя й таму яны заслугоўваюць на роўныя правы.

Сёньня Праваслаўная Царква ў Беларусі, як падначаленая Маскве, нічога ня хоча знаць і слухаць, што дзеецца ў краі. Яна ня хоча знаць, што сказаў апостал Павал сваім родзячам у Рыме, калі яго прывезьлі туды арыштаваным: „Мужы браты! хаця я нічога не ўчыніў супраць народу й звычаяў айцоў, мяне, як вязьня, аддалі з Ерузаліму ў рукі Рымлян". (Дзеяньні Сьвятых Апосталаў, 28:17) Нешта падобнае дзеялася й дзеецца сёньня ў Беларусі.

Каталіцкая царква, якая прэтэндуе на кіруючае становішча над усімі хрысьціянскімі цэрквамі, мае за сабою вялікія грахі перад Богам і людзьмі. Таму папа Ян Павал II у 1994 годзе падаў прапанову сваім кардыналам, каб царква пакаялася ва ўсіх сваіх грахах, зробленых на працягу гісторыі. Такое прабачэньне папа хацеў умясьціць у сваю энцыкліку, але на гэта адказаў італьянскі кардынал Джакомо Біфа: „У царквы няма грахоў". Гэта значыць, што царква можа рабіць і падтрымоўваць усялякія праступствы й ня будзе мець грахоў.

На сьвеце маецца многа рэлігіяў, розных сэктаў і культаў, якія актыўна праводзяць сваю дзейнасьць, але іх немагчыма ўсіх успамянуць. Можна сказаць адно, што рэлігійныя вераваньні, іхняя абраднасьць і вывучэньне маюць вялікае значэньне ў разьвіцьці й аб'яднаньні, як і разьяднаньні, людзей. Але, гледзячы на ўсе гэтыя рэлігіі, чалавеку часам робіцца незразумелы іхні зьмест. Нават тыя самыя рэлігіі, перанятыя іншымі народамі, прымаюць сваю адметнасьць.

Апошнім часам людзі менш пачалі хадзіць у сьвятыню. Маюцца на гэта розныя прычыны, апраўданьні, домыслы. Адны ня хочуцьісьці й даваць ёй цяжказапрацаваныя грошы. Другія бачаць царкву як багатую й пышную ўстанову, якая дбае больш пра матар'яльны быт, як пра духовую вартасьць. І гэта мы бачым сёньня, як пры некаторых цэрквах сьвятары й ягоныя памагатыя карыстаюцца царкоўнымі грашыма за свае паслугі. А ведама зь Евангельлі, што Ісус Хрыстос забараніў сваім вучням-апосталам браць грошы за прапаведаньне праўды Божай. Калі Ісус зайшоў у ерусалімскую сьвятыню і ўбачыў, што там ідзе гандаль, Ён перакуліў сталы гандляроў, рассыпаў іхнія грошы й сказаў: „...ці-ж не напісана: дом Мой домам малітвы ўсімі народамі будзе названы, а вы зрабілі яго прытонам разбойнікаў!" (Мк. 11:17)... Трэція бачаць царкву, як чужы палітычны інструмант шкодны для народу. А ёсьць і такія, якія ідуць у царкву, каб крыху падзарабіць.

І калі сярод рэлігіяў не наступіць згода й зразуменьне сваіх памылак, а тым больш сваіх абавязкаў перад Богам, — датуль ня будзе спакою сярод народаў сьвету.

У сапраўднасьці ніхто яшчэ дакладна і ўпэўнена ня знае, якая рэлігія ёсьць лепшая, справядлівейшая й сапраўднейшая. Амаль усе яны вучаць маралі, але тыя, каторыя яе вучаць і прапаведаюць, часта самі зьневажаюць сваю рэлігію. Сярод рэлігіяў і яе кіраўнікоў наглядаецца беспарадак. І паўстае пытаньне: у якую сьвятыню йсьці й якому Богу маліцца?

**Юры Весялкоўскі**
*Англія*

# БАЛТЫЦКІ ХРАНОГРАФ

## Па сьлядох II Зьезду беларусаў Балтыі

Спадарыня Лена Глагоўская ў Вільні нярэдкі госьць – яна прыяжджае працаваць сюды ў мясцовых архівах, зьбіраць матар'ялы з гісторыі Беларусі. Спн. Глагоўская – доктар навук, сябра Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы, аўтар шматлікіх публікацыяў з гісторыі й культуры Беларусі. Акрамя таго яна – старшыня гданьскай суполкі беларусаў „Хатка".

**— Ад якога часу стаіць вашая „Хатка"?**

– Ад 1992 году. Перад гэтым у Гданьску йснавала філія Беларускага грамадзка-культурнага таварыства. У 1991 годзе спынілася дзяржфінансаваньне гэтай арганізацыі, і хоць ніхто яе не закрываў, але фактычна ейнае йснаваньне спынілася. Тады паўстала Беларускае культурнае таварыства „Хатка". Штогод мы адзначаем наша нацыянальнае Сьвята 25 Сакавіка, ладзім краязнаўчыя вандроўкі, сустрэчы зь дзеячамі беларускай культуры. Найбольш цесныя адносіны маем зь землякамі зь Беласточчыны. Там, дарэчы, і мая радзіма. У „Хатцы" ёсьць зь дзясятак актыўных сяброў, на імпрэзы зьбіраецца каля 40 асобаў.

**— Адкуль яны, гданьскія беларусы?**

– Большая частка, натуральна, прыехала зь Беласточчыны, а таксама нямала – зь Віленшчыны. Гэта тыя, хто ўцякаў ад савецтаў пасьля апошняй вайны.

**— Пытаньне да цябе, як да гісторыка, культуралёга: ці ёсьць беларусы Балтыі? Ці, можа, гэта міф, выпадковая прывязка да рэгіёну нашага пражываньня?**

– Так, гэта пытаньне філязафічнае. І я адкажу – ёсьць! Беларусы ў гэтым рэгіёне не чужыя й не выпадковыя. Аднойчы я ехала ў Беларусь у аўтобусе, выпадковыя людзі пачулі мой разгавор і запыталіся, зь якой балтыцкай краіны я прыехала? Паглядзі, колькі беларусаў выехала ў Піцер, Гданьск, Калінінград, Рыгу...

**— Сапраўды, на Беразе Чорнага ці Сярэдземнага мора беларусаў столькі няма. Беларусь — балтыцкая краіна. А што б ты прапанавала, каб мацнелі сувязі паміж беларусамі Балтыі?**

– Найперш сустрэчы, жывыя кантакты. А таксама трэба мець найбольш кантактаў з суполкамі іншых нацыянальных меншасьцяў – ад іх можна многаму навучыцца.

*Гутарыў* **Сяржук Вітушка**

## Памежжа й беларускія мытнікі

Дзіву даесься, калі перасякаеш літоўска-беларускую граніцу, асабліва — беларускі бок. Папершае, не пачуеш роднай мовы, зьвяртаюцца на суседзкай, расейскай. І кожны (і пагранічнікі й мытнікі) стараецца да цябе прычапіцца, налажыць штраф, "сарваць" капеечку ці нават завярнуць назад.

Каб заехаць у Беларусь, грамадзянам Літвы патрэбная віза, якая каштуе шмат грошай, асабліва, калі трэба ехаць тэрмінова. Для ўезда ў Польшчу, напрыклад, візаў непатрэбна, а Беларусь, чым далей, падвышае кошты ды ўзмацняе зялезны занавес на мяжы зь Літвою, і хутка туды будзе гэтаксама цяжка патрапіць, як на Востраў Свабоды да Фідэля Кастры. І гэта робіцца нягледзячы на тое, што мяжы паміж Беларусьсю й Літвой ніколі не йснавала.

Калі ж ты едзеш у Беларусь, ці, ня дай Божа, цераз Беларусь на ўласным аўто, дык цябе так абрабуюць, што мала не пакажацца.

Ня буду тут пералічваць усе паборы, скажу толькі, што аматары зьездзіць, напрыклад, на Ўкраіну „пакінуць" беларускаму боку недзе 60$ і столькі ж украінскаму за „транзыт", „экалёгію", на „мясцовыя зборы", „страхоўкі" жыцьця й аўтамашыны, „афармленьне" дакумантаў і г.д. А калі да гэтае сумы дадаць немалыя цяпер кошты за бэнзін ды штрафы супрацоўнікам беларускай ды украінскай ДАІ (Дзяржаўная аўтаінспэкцыя, абрэвіятуру якой у народзе выводзяць ад слова „даіць" ці „даваць"), дык высьвятляецца, што куды зручней (ня трэба выстойваць чэргаў на мяжы) й таньней ляцець у Кіеў самалётам. Калі ж ты едзеш па даверанасьці на чужой машыне, дык беларускія мытнікі патрабуюць, каб тая даверанасьць была перакладзеная на расейскую (чаму не на беларускую?) мову. Ці ня лепш было б не чыніць падарожнікам дадатковыя перашкоды, а ўтрымоўваць перакладчыка з суседняй, літоўскай мовы? Вось жа літоўцы ня чыняць беларусам гэтакіх перашкодаў зь перакладам.

Сам я часьцей ежджу на Бацькаўшчыну цягніком. Здарылася са мной нядаўна гэткая гісторыя. На ст. Лынтупы патрэбна мне было ўзяць на маршрут Лынтупы — Віцебск білет да Круляўшчызны, які каштуе 25 тыс. бел. рублёў (0,3$). Але перш чым купіць той білет, я прайшоў мытны дагляд, запоўніў адпаведную дэклярацыю, запісаўшы туды 60 тыс. бел. рублёў, на якія й разьлічваў яго купіць, бо ў Лынтупах абменнага пункту няма, а за даляры там білеты не прадаюць. Мае беларускія рублі беларускія мытнікі адабралі на той падставе, што згодна закону ўвоз беларускіх грошай у РБ забаронены. Запабягаючы наперад, хачу дадаць, што я потым паскардзіўся ў Мытны камітэт у Менску, але першы намесьнік старшыні камітэту сп. А. Дзеравяшка патлумачыў: „В соответствии с Письмом Национального банка РБ от 29.05.97 N901 ввоз в республику валюты РБ запрещен". Узьнікае пытаньне, ці зьяўляецца законам ліст (!) Нацыянальнага банку РБ?

Адным словам, ніякія мае ўгаворы не дапамаглі й застаўся я без беларускіх грошай, а горш за таго, пакуль угаворваў, адстаў ад цягніка і ўсю ноч каратаў у Лынтупах, дзе няма ніякага вакзальнага памешканьня. Дзякуй Богу, мытнікі пашкадавалі мяне й дазволілі пераначаваць у сваім вагончыку: і яны таксама людзі. На раніцы ў касе мне білета за даляры не далі, а памяняць на "зайчыкі" нельга, бо нелегальны абмен сурова караецца згодна Ўказу Прэзыдэнта РБ. Паспрабаваў пазычыць грошы ў памежнікаў з тым, што аддам, як буду вяртацца. Не атрымалася. Параілі толькі зьвярнуцца да правадніцы, каб давезла за даляры. Сапраўды, адна неадпаведнасьць у законе цягне за сабою другую, у выніку чаго пакутаюць людзі. І хто ж у гэтым вінаваты? Адказ адзін: існуючы ў Беларусі антылюдзкі рэжым, які пабудаваны на падмане й беззаконьні, як і ў часы бальшавізму.

**Юры Гіль**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# СЯЧКАРНЯ

## СПРАВА N15895

**па абвінавачаньню Станкевіча Адама Вікенцьевіча ў злачынстве прадугледжаным арт. 58-4 і 58-10 II УК РСФСР**



Гэтая справа складаецца з аднаго тому, у каторы апрача самой сьледчай справы падшытая яшчэ адна справа N 2661 за 1944 год на таго самага Станкевіча, а таксама дадаткі: маёмасная справа й дзьве назіральныя. З гэтых дакумантаў вынікае, што наш шаноўны ксёндз А. Станкевіч тры разы „гасьцяваў" у будынку КДБ. Першы раз у 1941, другі – у 1944, трэці – у 1949 годзе. Апошні раз стаўся ракавым.

Як кампрамэтуючыя матар'ялы ў справу Станкевіча падшытыя копіі допытаў ксяндза Язэпа Германовіча, якія праводзілі ў студзені 1949 году. Падчас допытаў ксёндз Германовіч (арыштаваны ўпраўленьнем МГБ Чыцінскай вобл. РСФСР) згадаў імя Адама Станкевіча – так гэтым разам спрацавала кэдэбоўская сячкарня – і праз тры месяцы ў Вільні арыштавалі Станкевіча.

Арыштаваны ксёндз А. Станкевіч быў 13.04.49. Падчас арышту ў ягонай кватэры быў праведзены ператрус, на маёмасьць быў накладзены арышт. З сабой сьледчыя забралі 38 лістоў асабістай перапіскі, 60 фатаздымкаў, рукапісы, нататнікі, сшыткі. Прыхапілі таксама 15-рублёвую залатую царскую манэту й пярсьцёнак. Пазьней, у часе сьледзтва, на кватэры Станкевіча, на вул. Полацкай, 9-4, быў яшчэ адзін ператрус. Зноў забралі кніжкі, аўтарам якіх быў сам ксёндз Адам, розныя іншыя кнігі, часопісы й газэты.

Ксёндз Станкевіч быў вядомай асобай. Менавіта як „слаўны кіраўнік беларускага буржуазна-дэмакратычнага руху" ён і быў арыштаваны. Пастанову на арышт падпісаў опэрупаўнаважаны аддзелу „О" МДБ ЛССР лейтэнант Бушуеў і іншыя вышэйшыя начальнікі.

Допыты праводзіў старэйшы сьледчы 1-га аддзелу сьледчай часткі МДБ ЛССР капітан Трубачыстаў. Допыты часта пачыналіся аб 9-ай, 10-ай вечара й заканчваліся аб 4-ай, 5-ай раніцы.

Падчас сьледзтва гэбісты „вывучалі" гісторыю Беларусі. Сталы векам ксёндз Адам распавядаў сваю багатую біяграфію. Дзяржаўны архіў ЛССР падрыхтаваў гістарычныя даведкі пра дзейнасьць Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні.

Як і трэба было чакаць, „гісторыкі" зь дзяржбясьпекі прызналі дзейнасьць ксяндза Станкевіча злачыннай. Ён абвінавачваўся ў наступных „грахах":

1. Быў сябрам, а з 1922 па 1928 – кіраўніком Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай партыі.

2 і 3. З 1919 па 1941 быў сябрам БНК, уваходзіў у прэзыдыюм, быў скарбнікам гэтае арганізацыі.

4. Сам асабіста напісаў цэлы шэраг „антысавецкіх" кніжок: „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня", „Хрысьціянства й беларускі народ" ды іншыя.

5 і 6. Быў рэдактарам газэты „Крыніца", „Хрысьціянская думка", друкаваўся ў „Калосьсях".

7. Быў дэпутатам польскага сойму.

8. Выступаў у касьцёлах з казаньнямі антысавецкага зьместу.

Пад абвінаваўчым заключэньнем подпісы катаў: маёра Пыракава, капітана Галіцына, падпалкоўніка Чалнакова, палкоўніка Захарава.

Адумысловай нарадай МДБ СССР ад 31.08.49. Адам Станкевіч быў асуджаны на 25 гадоў лягероў...

Аркуш 154 справы 15896. Акт аб сьмерці... Памёр наш шаноўны ксёндз Адам 4.12.49. у цэнтральным шпіталі лягеру „Озёрный".

Наступны аркуш – пасьведчаньне аб рэабілітацыі N 13-10/89 ад 01.08.89.

Такі вось лёс... Мы, беларусы, падлічваем свае страты. Памяць пра ахвяры расейска-бальшавіцкага тэрору ніколі не павінныя забыцца. Суд гісторыі й Божы суд кожнаму прызначыць сваё: бязьвінным ахвярам – пашану, злачынцам – ганьбу, нам, сучасьнікам, – навуку.

*Вядучы рубрыкі* Сяржук Вітушка

# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ

**Шаноўная рэдакцыя!**

Маё прозьвішча Міраслаў Кажыньскі (да 1981 году Міраслаў Корзун, мама па разводзе зьмяніла прозьвішча) і я ёсьць беларус. Нарадзіўся ў Варшаве, але мае бацькі й дзяды паходзяць зь Беларусі (ваколіца Семятыч ля Бельска Падляскага). На жаль, у выніку паланізацыі не самым лепшым чынам валодаю беларускай мовай, але маю чыста беларускую нацыянальную сьвядомасьць. Прызнаю Акт 25 Сакавіка й цалкавітую незалежнасьць Беларусі, безь ніякіх расейска-польскіх уплываў, і таму таксама вельмі прашу аб наданьні мне сымбалічнага грамадзянства БНР. Буду шчасьлівы, калі атрымаю грамадзянства БНР і хоць бы ў такі спосаб задэманструю супрацiў русыфікатарскай дыктатуры Лукашэнкі.

Жыве Беларусь!

Мірaслаў Кажыньскі
*Варшава*

**Ліст з Гомля**

даслаў нам наш чытач **Валодзя Зінчук** (11 гадоў). Ён піша:

„У мяне шмат радасьцяў. Радасьць першая: у школе пачаў хадзіць на польскую мову. Радасьць другая: у музычнай школе пачаў хадзіць на саксафон. Радасьць трэцяя, бытавая: купілі абагравальнік-аўтамат за 16 000 000 рублёў, каля якога вельмі добра грэцца. Акрамя гэтага, мая маці зышла з працы ад свайго тырана-начальніка. Наш клас зь 5-ых самы лепшы. А дома ў нас ёсьць такая прыгожая рэч, „пясочная карціна" называецца. Яе паварочваеш, кіслярод падымаецца ў вадзе наверх і робіць так, што пясок сыплецца праз яго: і то зьнікаюць, то зьяўляюцца розныя пячоры й горы.

Канец пакуль што радасьцям."

**Ліст з Рыму**

даслала нам спн. **Марыля Пецюкевіч.** Падзякаваўшы супрацоўнікам выдавецтва ТБК за выдадзеную імі кнігу Марыяна Пецюкевіча „У пошуках зачараваных скарбаў", яна між іншым паведамляе:

„Што тычыцца этнаграфічных артыкулаў майго бацькі, дык на працягу працы перад вайною й потым у Торуні былі яны ўсе цалкам надрукаваныя. Амаль усе яны былі перададзеныя пасьля ягонай сьмерці ў Этнаграфічны музэй у Торуні і ў Акадэмію навук. Штосьь хіба атрымаў праф. А. Мальдзіс і інж. Туронак. Аднак я падчас апошняга побыту ў Вільні атрымала ад майго стрыечнага брата, які пражывае на гаспадарцы ў ваколіцах Рэшы, некалькі пажоўклых і абгрызеных мышамі артыкулаў, якія мой брат захаваў пасьля нашай дэпартацыі ў Сыбір... У будучым вышлю іх рэдакцыі „Руні".




**„Беларусы Балтыі: ўчора, сёньня, заўтра,,**

Кніга з такою назваю выдадзеная выдавецтвам ТБК „Рунь". Гэта своеасаблівы сшытак-альманах самых разнастайных матар'ялаў, першая частка якога прысьвечаная мінуламу й сучаснаму літоўскіх беларусаў. Другая частка складаецца пераважна з выступленьняў дэлегатаў II Зьезду беларусаў Балтыі, а трэцяя частка прысьвечаная дзейнасьці беларускіх суполак Літвы.

Ідэя рэгулярнага выданьня падобнага штогадовага сшытка матар'ялаў паводле жыцьця й дзейнасьці беларусаў балтыцкага рэгіёну (Літвы, Латвіі, Эстоніі, Пецярбургу, Калінінграду, Гданьску) ўзьнікла на нядаўнім II Зьезьдзе беларусаў Балтыі й выдаўцы спадзяюцца, што наступным годам ініцыятарам такога сшытку выступіць якісьці іншы прыбалтыцкі горад або краіна. Дзеля гэтага мы гатовыя падтрымаць будучых ініцыятараў тэхнічна й матар'яльна ў справе выданьня „Беларусаў Балтыі". Свае прапановы дасылайце на адрас рэдакцыі „Руні".

А. М.

**Беларуская праграма на тэлевізіі Літвы** — кожны панядзелак **17.20**, кожны аўторак **9.00** (паўтор).

**«Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё»** — кожную суботу **11.30** па другой праграме радыё.

**Інфармацыя для беларусаў Літвы** — штодня **17.20** па другой праграме Літоўскага радыё.

**Беларуская праграма радыё «Свабода»** — штодня **17.00-18.30** на хвалях **25** і **41** м, **21.00-22.30** на хвалях **41** і **49** м, **5.00-6.00** на хвалях **41** і **49** м.

**«Бернардынскі сад». Аўтарская праграма А. Антонава** — штосуботы **14.30-15.00** на хвалі **96,8** FM па Радыё 7.

**Хата-чытальня ТБК** на вул. Жыгімaнта, 12-3 працуе штодня **11.00-14.00** апроч нядзелі й панядзелка. Тэл.: **61-65-32.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# Дзе скажы твой зайка дом?

## Зайка й бабка

Між кустамі, між густымі
Скок ды скок,
Бегаў зайка, прытаміўся.
А за дрэвам прытаіўся
Люты воўк.

Зайка скокнуў без агляд кі,
Воўк хацеў схапіць за пяткі
Ды за бок.
У адчыненыя дзьверы
Да бабулькі зайка шэры
Хутка скок.

Бабка заіньку пусьціла,
Прытуліла, накарміла.
А дзядуля злога воўка
Напалохаў дубальтоўкай.
А ты, заінька, глядзі –
Ў лес бяз мамы не хадзі!

*(Паводле* **Л. Геніюш***)*

## Зайка-папрашайка

– Дзе, скажы, твой, зайка, дом?
– Пад любым густым кустом.
– Дзе твой ложак, дзе пасьцелька?
– Там, дзе цёплая зямелька.
– Ты капусты шмат наквасіў?
– Не люблю рабіць запасаў.
– Зімку жыць, як будзеш, зайчык?
– Хлеба выпрашу акрайчык.
– Сорам, зайка, сорам, зайка,
Жыць на сьвеце папрашайкам!

*(Паводле* **Я. Крупенькі***)*

## Заяц-небарака

У мядзьведзя – бярлога,
У лісіцы – нара.
Толькі ў зайца нічога –
Ні кала, ні двара.

І чаго ў небаракі
Лёс гаротны такі?
І ганяюць сабакі,
І шукаюць ваўкі.

А яшчэ паляўнічы
Заганяе у кут,
Бач, шыкоўным ён лічыць
Яго белы сурдут.

Зайца ў лесе, і ў полі
Крыўдзяць сотні гадоў,
А ён хлебам ды сольлю
Зноў дзяліцца гатоў!

*(Паводле* **А. Пісьмянкова***)*

## Заяц варыць піва

Туман плыве зь нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
„Глядзіце, заяц варыць піва!" –
Жартуюць людзі між сабой.

А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць зь ячмяню.

Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.

І піва заяц варыць густа,
А на закуску бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.

З зайчыхай вып'юць па маленькай,
І дзеткам трошкі паднясуць,
Пужлівым голасам таненькім
„Цьвіцела морква" завядуць.

Пабачыш – не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасьць
Перад халоднаю зімой.

*(Паводле* **У. Караткевіча***)*

***Андрусь Дылюк***

## Рэакцыя на вонкавае ўзьдзеяньне залежыць ад унутранага стану чалавека

Чалавек, які быў раздражнёны й злы характарам, пачаў злавацца й крычаць. Чалавек, які быў добрым і меў пачуцьцё гумару, зьвёў усё на жарт і ня стаў крыўдзіць іншага чалавека, які праз сваю неабачлівасьць пакамячыў ягоны капялюш. Сьлёзы трэйцяга выявілі пэсымістычны й нязлоблівы ўнутраны сьвет і мэлянхалічны характар. А чацьверты ўвогуле быў флегматык.

Такім чынам, рэакцыя чалавека на жыцьцёвыя здарэньні залежыць толькі ад унутранага стану чалавека, ягонага характару. І пагаршэньне матар'яльных умоваў жыцьця ніколі не прыводзяць чалавека да маральнага падзеньня. Вось наадварот – гэта можа быць. Аднак маральны й культурны ўзровень чалавека не залежыць ад таго, як і што ён есьць, у ва што апранаецца. Калі сьвіньню карміць пірагамі, апрануць у пінджак з гальштукам і пасадзіць у крэсла кіраўніка, яна ўсё адно ад гэтага быць сьвіньнёй не перастане. А інтэлігентны чалавек, нават галодны й босы, заўсёды такім і застанецца, ён ня стане хлусіць, красьці, не ўпадзе да брыдкаслоўя й п'янства. Так што тыя людзі, у характары якіх ёсьць раздражнёнасьць, няўстрыманасьць, гняўлівасьць, калі яны апраўдваюцца, маўляў, жыцьцё робіць нас такімі, – падманваюць сябе й іншых.

У Евангельлі ад Лукі ёсьць такія словы (6:45): „Добры чалавек з добрага скарбу сэрца свайго выносіць добрае, а благі чалавек з благога скарбу сэрца свайго выносіць благое, бо ад перапоўненага сэрца гавораць вусны яго". Калі сэрца ў чалавека благое, злое, дык ён усім будзе незадаволены, заўсёды будзе раздражнёны. Чалавек гневаецца й крычыць не таму, што яго раздражняюць, а таму, што ў яго благое сэрца. І вусны такога чалавека толькі выяўляюць тое, што схаванае ў ягоным сэрцы.

Вазьміце два цюбікі, адзін – з чорнай ваксай, другі – з зубною пастаю. Націсьніце на першы – зь яго палезе чорная маса. Націсьнеце на другі – палезе белая. Зь цюбіка з зубною пастаю не палезе чорная вакса. Так і зь людзьмі. Калі вы наступілі на нагу ці незнарок штурхнулі чалавека, у якога злое й чорнае сэрца, зь ягонага нутра нічога іншага, апроч раздражнёнасьці й бруднай лаянкі, не зьявіцца. Калі ж у чалавека добрая душа, дык яна й праявіцца ў спагадлівым слове, ціхасьці, дабрыні.

На нас, як на тыя цюбікі, штодня націскае жыцьцё. І тое, што зьяўляецца нашай сутнасьцю, колерам нашай душы, выплёскваецца на паверхню. У Бібліі ёсьць такія словы (кніга Прыпавесьцяў 14:16): Мудры баіцца й аддаляецца ад зла, а неразумны раздражнёны й самаўпэўнены". А ў кнізе Іова (5:2) запісана: „Так, неразумнага забівае гняўлівасьць, і неразважнага губіць раздражнёнасьць". Раздражнёны чалавек стварае сабе праблемы на пустым мейсцы, заўсёды апынаецца ў стрэсавых сытуацыях, зьяўляецца генэратарам канфліктаў, - і ў выніку руйнуе сваё здароўе. І каб толькі сваё: вакол яго шмат іншых людзей!

А калі запальчывых і раздражнёных людзей у грамадзтве 80%? Нездарма самая вялікая група злачынстваў ёсьць пабытовая. Сямейныя сваркі, звадкі, - усе яны пачынаюцца з маленькай раздражнёнасьці. А калі абое канфліктуючых з гэтых 80%? Вынікі бываюць трагічныя.

Аднак самая вялікая трагедыя чалавека ў тым, што ён разумее, што раздражнёнасьць і гняўлівасьць – гэта зло, ды зрабіцца лепшым сам сабой ня можа. Таму што „усякі, хто грашыць, ёсьць нявольнік грэху" (Евангельле ад Яна 8:34). Многія людзі спрабавалі зрабіць сябе лепшымі, але ня здолелі. Бо яны, нібыта барон Мюнхаўзэн, спрабавалі выцягнуць сябе з балота, цягнучы сябе за чупрыну.

## Каб выбрацца з балота, трэба ці абаперціся, ці ўхапіцца за нешта

Гэта толькі барон Мюнхаўзэн мог абаперціся на сябе й свае сілы. А ў рэальным жыцьці ўсё значна складаней. Нікому ня раю карыстацца мэтадам гэнага пэрсанажа: і з багны ня вылезеце, і валасы з галавы павыдзіраеце.

І проста нетактоўна ў гэтай сытуацыі не ўхапіцца за руку дапамогі, што даўно да нас працягнутая, каб выратаваць нас. Гэтую руку працягвае нам Ісус Хрыстос. Толькі Яму магчыма выбавіць сэрца чалавека ад злосьці, раздражнёнасьці й іншых грахоў. Ну, а духоўнае здароўе – гэта першакрыніца здароўя фізычнага. Трэба толькі адкрыць сваё сэрца перад Госпадам у простай шчырай малітве. Калі вы хочаце стаць духоўна здаровымі, дык павінныя ведаць, што ключ да духоўнага здароўя – малітва. Можаце маліцца так: „Дарагі Госпад Ісус Хрыстос! Прабач мне грахі, вызвалі сэрца маё ад раздражнёнасьці й злосьці. Амін!"

***

**Беларускія кнігі:**

**„Беларусы Балтыі: учора, сёньня, заўтра. Сшытак першы."**
Выд. ТБК «Рунь», Вільня, 1998;

Марыян Пецюкевіч.
**У пошуках зачараваных скарбаў.**
Выд. ТБК «Рунь», Вільня, 1998;

Лявон Луцкевіч.
**Вандроўкі па Вільні.**
Выд. ТБК «Рунь», Вільня, 1998;

Чэслаў Кудаба.
**Па Віліі.**
Выд. «Полымя», Менск, 1992;

Юліяна Вітан-Дубейкаўская.
**Мае ўспаміны.**
Выд. НАША НІВА, Вільня, 1994;

Баляслаў Лесьмян.
**Пан Блішчынскі.**
Выд. НАША НІВА, Вільня, 1994;

– можна набыць, замовіць або атрымаць у падарунак у памешканьні рэдакцыі «Руні».

Набываючы ў нас кнігі, ты знаёмісься з новым, спрыяеш адраджэньню беларускага кнігавыданьня ў Вільні!

Шчыра дзякуем за ахвяраваньні

**М. Пашкевічу** з Канады, **М. Клакоцкаму** й **М. Смаршчку** з Амэрыкі, на грошы якіх будзе выдадзены наступны нумар нашае газэты.




*Сапраўдная інфармацыя на сапраўднай мове*

БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ

**дзейнічае ў структурах Праграмы для замежжа Польскага Грамадзкага Радыё. Перадачы Пятай Праграмы Польскага Радыё выходзяць штодзённа на 10 мовах: беларускай, польскай, украінскай, расейскай, летувіскай, ангельскай, нямецкай, эспэранта, чэскай, славацкай.**

**Слухайце нас на кароткіх хвалях паводле менскага (віленскага) часу:**

**14.30 (13.30) — 41,18 м (7285 кГц) і 50,04 м (5995 кГц)**
**16.30 (15.30) — 41,27 м (7270 кГц) і 49,22 м (6095 кГц)**
**20.00 (19.00) — 41,78 м (7180 кГц) і 48,00 м (6250 кГц)**

**Нашыя адрасы:**

- **Праграма для замежжа. 00-977 Варшава. P.O. box 46. Polska.**
- **Юрасю Корбану. 210038 Віцебск. П/с 5. Беларусь.**

☎ *(+4822) 645 93 67; 645 92 82*
**Факс:** *(+4822) 645 59 17*

**Умовы падпіскі**

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх на адрас рэдакцыі на імя старшыні ТБК Хведара Нюнькі (Fiodor Niunka) або галоўнаму рэдактару Алегу Мінкіну (Oleg Minkin). Кошт падпіскі на год – 20 даляраў.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў памешканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты – 0187. Кошт падпіскі – 12 літаў.

Нашым патэнцыяльным падпісчыкам у Беларусі паведамляем нумар тэлефону ў Гародні: (+0152) 44 01 27

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы

выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі:
**2001 Vilnius, Žygimantų 12-3**
тэлефоны: **61 65 32, 42 38 02**
друк: **АТ « Спаўда»**
замова __
наклад **1000** асобнікаў
Сябры рэдакцыі:
**Алег Мінкін** - галоўны рэдактар
**Алег Аблажэй** - мастацкі рэдактар
**Рычардас Талюшыс** - макет і вёрстка
**Сяргей Вітушка** - гісторыя й этнаграфія
**Павал Саўчанка** - падпіска й распаўсюджаньне

**Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013